Чытайце ў нумары: Зманлівыя мільёны | Цукерка | Адзіноцтва з неабходнасці


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (467) | ГОД X | 7 ЛЮТАГА 1965 Г. | ЦАНА 60 гр.


## ЧАЛАВЕК І АТАМ

У залах Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрылася выстаўка «Супраць вайны». Гэта графіка і фотамантажы Браніслава Лінкэ, Генрыха Грунвальда, Яна Леніцы і інш. Выстаўка ўздзейнічае вельмі моцна. Некаторыя карціны назаву: **«Атам і Хрыстос»** — на атамным грыбу распяцце, постаць поўная цярпення; **«Пастаянна хтосьці да кагосьці страляе»,** — бачым толькі рукі з рэвальверамі (постаці няма), якія страляюць да людзей. Рукі без постацяў прыводзяць на думку маскіроўку злачынцаў, хаванне ўласцівага твару; **«Коннік смерці»** — над чырвонымі языкамі полымя і агню нясецца шкілет конніка на шкілеце каня; **«Урок фізікі»**, упрошчаны ўзор якога я перапісала з карціны Ежы Зарубы: ГФР + бомба Н = крыжы (у аўтара, зразумела, нарысавана бомба і крыжы).

Карціны для выстаўкі пазычаны ў Музеі Польскага рэвалюцыйнага руху ў Варшаве і складаюць вялікую каштоўнасць. (вл)

## ЗАКАНЧЭННЕ КОНКУРСУ ГАРАДОЎ

У конкурсе гарадоў, у якім прыняло ўдзел 30 гарадоў Беласточчыны, 2 другія ўзнагароды атрымалі Гайнаўка і Ломжа па 150 тысяч злотых, трэцюю ўзнагароду — Замбраў — 100 тысяч злотых, дзве чацвёртыя ўзнагароды па 50 тысяч злотых — Алецка і Лапы.

Агульная вартасць прац зробленых у рамах конкурсу 30-ці сягае 21 мільёна 427 тысяч зл. Гэта лічба прыблізная. Фактычная, якую цяжка дакладна аблічыць, будзе далёка большай.

Важнейшыя з прац, выкананыя грамадскім чынам у конкурсе: 96 926 $м^2$ вуліц і тратуараў былі папраўлены; 375 405 $м^2$ кветнікаў, сквераў заложана; 81.153 дрэвак, 37 361 кустоў і 45 тысяч кветак пасаджана.

Многа рабіла моладзь. У Бельску ў грамадскіх чынах прымала ўдзел 2300 асоб моладзі. У Гайнаўцы вучні X-га і XI-тага класаў агульнаадукацыйнага ліцэя вырабілі 62 тысячы злотых.

Першы конкурс закончыўся і даў добрыя вынікі. Мо' б так падумаць аб наступным? (вл)



Сацыялістычная свядомасць не зводзіцца толькі да акцэптацыі асноў нашага ладу. Характарызаваць яе павінны сацыялістычныя адносіны да канкрэтных гаспадарчых і палітычных праблем, якія высоўвае жыццё, да інтарэсаў народнай дзяржавы, да працы і грамадскай уласнасці, да партыі як авангарда рабочага класа і асноўных прадпасылак яе палітыкі.

Уладзіслаў Гамулка

## КОЛЬКІ МАЕМ ТЫСЯЧАГОДАК

Мінула 6 год з таго часу, калі лозунг «1000 школ на Тысячагоддзе Польскай Дзяржавы» пачаў рэалізавацца. І незадоўга будзе ён апраўданы поўнасцю. У канцы мінулага года ў краіне мелі мы 931 школу Тысячагоддзя. З гэтай лічбы 873 — школы пачатковыя, 36 — прафесіянальныя, 17 ліцэяў і некалькі дзіцячых садоў.

У Беластоцкім ваяводстве пабудавана Тысячагодак 28. 3 інтэрнаты; будуецца 9 школ, а ў 1965 пачнецца будова далейшых 4 школ. Усе гэтыя школы маюць фізкультурныя залы, кабінеты і памяшканні для настаўнікаў. (вл)

## РАДЫ НА НОВАЙ ДАРОЗЕ

У выніку рэалізацыі пастаноў VIII Пленума Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі праца органаў народнай улады, якімі з'яўляюцца рады нарадовыя, значна палепшылася. Узмоцнілася становішча рад, узрасла іх роля ў агульнаграмадскім жыцці. Непасрэдна склаліся на гэта: перуказанне радам нарадовым ніжэйшай ступені правоў на большую самастойнасць і сродкаў на больш актыўную гаспадарчую дзейнасць. Павольна, у абставінах падрабязнай падрыхтоўкі і ўсебаковых разважанняў, праводзілася гэтая кампанія, якую называюць дэцэнтралізацыяй, або акцыяй для паляпшэння працы рад нарадовых. У след за пераменамі ў галіне эканамічнай дзейнасці рад нарадовых пайшлі перамены, якія можна было б назваць «пераменамі стылю працы». Новыя распараджэнні да «Закону аб радах нарадовых» павялічылі ролю радных, прадстаўнікоў насельніцтва, у працы Прэзідыума, павялічылі значэнне камісіі рады, якая мае зараз не толькі права выдаваць апініі, а ў некаторых выпадках магчымасці непасрэднага ўдзелу адміністраванні тэрыторыяй. Уведзеныя перамены не закончылі, аднак, цэлай кампаніі. У пошуках новых спосабаў паляпшэння працы рад і адміністрацыі адбыліся ў канцы 1963 і на пачатку 1964 года спецыяльныя сесіі Грамадскіх рад нарадовых, на якіх выплыла шмат цэнных прапаноў. Мінулы год прайшоў пад знакам апрацоўкі гэтых прапаноў у паасобных паветах. Затым у апошніх месяцах мінулага года адбыліся падобныя сесіі Павятовых рад Беласточчыны, з якіх ужо маюцца канкрэтныя, адпаведна апрацаваныя пастановы аб паляпшэнні працы адміністрацыі. Зразумела, што пастановы сесій паасобных паветаў абавязваюць адміністрацыйныя органы толькі гэтых паветаў. Таму ў гэтым годзе агульнаваяводскія вынікі ссумуюцца ў спецыяльнай, падсумоўвачнай сесіі Ваяводскай рады нарадовай, а затым ужо пасля астатковага шліфу ў Бюро рады міністраў, выйдуць у форме дэкрэтаў забавязваючых адміністрацыю ўсёй краіны. Як відаць з гэтага, толькі ў казках добрыя рэчы хутка робяцца, у жыцці бывае наадварот.

Варта хіба пазнаёміцца з пастановамі некаторых сесій Павятовых рад нашага ваяводства.

У Дуброве пастановы звяртаюць увагу на паляпшэнне абслугоўвання наведвальнікаў паасобных аддзелаў мясцовай Павятовай рады нарадовай. З гэтай мэтай плануецца сарганізаванне адміністрацыйнай адукацыі для працаўнікоў рады, а члены Прэзідыума павятовай рады і кіраўнікі аддзелаў у некаторых, больш заселеных пунктах як Ліпск, Новы Двор, Сухаволя ў вызначаныя дні

(Працяг на стар. 4)




**Ул. Паўлючук: ДАЎГАВЕЧНАСЦЬ СТАРЫХ ФОРМ.**

**В. Рудчык: ПРАСТОР ДЛЯ КАРОЎ.**

**В. Леўчук: СЦЭНА АМАТАРА.**

**Л. Гайдук: У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКАМ.**

**Н. Снарскі: РЭПЛІКА НА РЭПЛІКУ.**

# Злачынцаў за краты

Не хаваючы фанабэрыстай усмешкі, не баючыся кінуць выклік грамадскасці, бонскія палітыкі на ўвесь свет заявілі аб сваім намеры спыніць праследванне нацысцкіх ваенных злачынцаў. На вуліцах заходнегерманскіх гарадоў даўно свабодна разгульваюць былыя эсэсаўскія генералы, каты гестапа з гітлераўскімі ордэнамі на грудзях. 3 мая гэтага года бонскія ўлады мяркуюць зрабіць наступны крок. Нібы пацукі з нор, выпаўзуць на белы свет забойцы, якіх выратавалі ад народнага гневу пластычныя аперацыі ды падробленыя пасведчанні асобы. Карыстаючыся прамой падтрымкай бундэстага, яны злядуцца ў Бон з розных бакоў на свой нацысцкі шабаш.

Што прымушае бонскіх кіраўнікоў ісці на такое рашэнне? Ідэя ўсёдаравання? Далёка не так. Калі ўважліва прыгледзецца да апошніх падзей, стане зусім відавочна, што амністыя ваенным злачынцам, стварэнне шматбаковых ядзерных сіл, у якіх Заходняй Германіі адведзена вядучая роля, «стратэгія пярэдняга краю» і яе атамны мінны пояс — усё гэта састаўныя звенні аднаго шырока задуманага плана.

Імперыялістычныя колы збіраюць сілы вайны. Ім спатрэбіліся галаварэзы. Ім спатрэбіліся выканаўцы ваенных дактрын, якія з лютай нянавісцю глядзелі б на лагер міру і сацыялізма. Як ім было не звярнуцца да паслуг недабітых гітлераўскіх ваяк, да адкрытых і скрытых рэваншыстаў?

Сёння ў Боне расшаркваюцца перад ваеннымі злачынцамі, робяць добрыя жэсты ў іх бок. Невераголна, але былыя нацысты атрымліваюць высокія службовыя пасады ў дзяржаўных установах і бундэсверы. Прадстаўнікі афіцыяльных улад шукаюць зручнага выпадку ўручыць ім кветкі як прызнанне іх былых «заслуг» і як своеасаблівы аванс за верную службу ў... новых гаспадароў.

Калі чытаеш аб усім гэтым, перад вачыма міжволі паўстаюць брацкія магілы. Шмат іх і на нашай зямлі. Перад вачыма ўзнікае калючы дрот лагераў смерці, печы крэматорыяў, газавыя камеры і шыбеніцы. Да слыху даносяцца гучны жаночы плач, прарэзлівыя дзіцячыя крыкі... Нічога не прайшло бясследна, нічога не забылася.

У мільёнах дамоў па ўсяму свету сёння партрэты блізкіх у жалобных рамках. Згубілі сёстры любімых братоў, смуткуюць браты па сваіх сёстрах. Ціха, употай плачуць сівыя ўдовы. Не дачакаліся, не дачакаюцца... Бачаць у сне твары сваіх мужных бацькоў несуцешныя сіроты.

А чым вымераеш гора маці? Чым можна вымераць людское гора? Яно бязмежнае. Якой нянавісці заслужыў той, хто прынёс яго людзям? Усеагульнай і вечнай.

Нельга дапусціць таго, каб у рукі забойцаў бонскія ўлады ўкладвалі кветкі і ядзерна-ракетную зброю. Гэта вельмі небяспечная гульня, якая пагражае міру і свету.

Зусім зразумела, ёсць адзіны правільны шлях. Ваенныя злачынцы, якім удалося схавацца, павінны быць адшуканы. Абавязкова. Нельга дапусціць, каб замах на мірнае жыццё, калі і дзе ён ні быў бы зроблены, застаўся не пакараны. Погань чалавечага рода — за турэмныя краты. Толькі і толькі там ім месца.

За такое рашэнне воля і сумленне людзей. І яны не просяць.

Яны — патрабуюць!

**НАМЕСНІК**




## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

Нядаўна выйшаў з друку беларускі каляндар на 1965 год. Апрача важнейшых дат, гумару, здымак і календара, у якім ёсць праваслаўныя і каталіцкія сваты, ёсць шмат цікавых публікацый. Каляндар пачынаецца вершам Алеся Барскага «Каравай». Загаловак наступнай працы: «Праўнае становішча беларусаў у перадваеннай Польшчы і сёння» — аўтар В. Склубоўскі.

У бягучым годзе будзе адзначацца 40 гадавіна «Грамады». З яе дзеячоў найбольш вядомы на Беласточчыне Павел Валошын, які родам з вёскі Гаркавічы на Сакольшчыне. Аб жыцці і дзейнасці нашага земляка Барыс Нікіцюк напісаў артыкул пад загалоўкам «Павел Валошын». Тут жа друкуецца адна з прамоў П. Валошына ў Сейме. Гэты самы аўтар змясціў яшчэ адзін артыкул пад загалоўкам «Барацьба ў лесапільнях Белавежскай пушчы».

У календары значная частка публікацый прысвечана 20-годдзю Народнай Польшчы. Артыкул «ППР і пэпээраўцы» расказвае аб дзейнасці Польскай рабочай партыі на Беласточчыне.

Аб змесце артыкула А. Баршчэўскага гаворыць яго загаловак «Беларуска-польскае культурнае супрацоўніцтва на працягу дваццаці год існавання народнай Польшчы».

У календары Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства аб'явіла невялічкі конкурс, які напэўна зацікавіць многіх чытачоў, асабліва набучэнцаў ліцэя, у якіх вывучаецца беларуская мова. Надрукавана ўрыўкі з трох твораў беларускіх пісьменнікаў. Трэба падаць імя і прозвішча аўтара і назву гэтага твора.

У календары ёсць шмат іншага цікавага матэрыялу. Між іншым, ёсць там расказ аб тым, як закончылася ІІ-гая сусветная вайна. Ёсць таксама артыкулы на сельскагаспадарчую тэму, шмат карысных парад, некалькі беларускіх песень. Апрача таго чытачы знойдуць і такія публікацыі, як сябе весці ў госцях, рэстаране, на забаве і г.д. Каляндар налічвае 200 старонак. Каштуе 6 зл. Купіць яго можна ва ўсіх аддзелах Беларускага таварыства.

М. Х

## ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ ПРАПАГАНДЫ

На апошнім пасяджэнні камісіі прапаганды гаварылася аб тым, як Беларускае грамадска - культурнае таварыства ўключыцца да адзначэння 40-ой гадавіны «Грамады». Камісія апрацавала праект плана працы і прадставіла яго для Прэзідыум ГП БГКТ на зацвярджэнне.

## ЁЛКА І ВЕЧАРЫНА

23 студзеня Сакольскі аддзел БГКТ сарганізаваў навагоднюю ёлку для сваіх членаў. Пад гукі аркестра дзеці весела гулялі з Дзедам Марозам, які пазней уручыў ім падаркі-пачкі.

Пасля ёлкі адбылася вечарына для актыву Праўлення аддзела. Кароткай прамовай вечарыну адкрыў старшыня Праўлення аддзела Аляксандр Рафаловіч. Закончыў ён сваё выступленне тостам: за далейшыя поспехі ў дзейнасці БГКТ на Сакольшчыне ў 1965 годзе. Песні і музыка гучалі аж да раніцы.

М. Х.

# ДЗЕ ВЫ, РАЦЫЯНАЛІЗАТАРЫ?

Рацыяналізатары — гэта людзі, якія думаюць, што зрабіць, каб машына была лепшая, давала большы эфект і карысць. Практычна, кожны вопытны работнік можа даць штосьці карыснае ад сябе, стаць рацыяналізатарам. Рацыяналізатарскі рух тоіць у сабе нязведаныя прадукцыйныя рэзервы.

У крынкаўскай гарбарні рацыяналізатарскі рух не набыў яшчэ размаху. Усё пачалося хіба ў 1956 годзе, калі Антон Міхалюк, Іван Скроўба і Павел Бах прымянілі нетыповы транспарцёр для вертыкальнага транспарту скур. Іх рацыяналізацыя дала ашчаднасць 102.339 злотых.

Потым аж тры рацыяналізацыі ўвёў Тадэвуш Пухальскі, кіраўнік варштатаў. Першая яго рацыяналізацыя датычыць замены скуранога паса клінавым пасам пры шліфавальным станку «Фюрнер». Такім чынам атрымана ашчаднасць на суму 1.407 зл. Другая рацыяналізацыя Пухальскага падобная да першай — заменена ў габлюшках гумовыя пасы клінавымі. Трэцяя рацыяналізацыя датычыць паляпшэння гідраўлічнага прэса. Атрыманая ашчаднасць — 1.890 зл.

І гэта ўсё, што можна расказаць аб рацыяналізатарскім руху ў гарбарні ў Крынках, Сакольскага павета. Мала, нават вельмі мала.

Беластоцкі дырэктар Рагоўскі, якому падначалена крынкаўская гарбарня, пацешыў мяне, што рацыяналізатараў многа, але яны, бачыце, не хочуць выяўляцца... Мо' і праўда?

(ся)

**НАША АКЦЫЯ**

# КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

**Падарунак Янкі Цялушэцкага з Новага Ляўкова:**

Л. Кассиль, М. Поляновский — «Друзья — пионеры»; А. Серафимович — «Железный поток»; С. Анисимов — «Путешествия П. А. Кропоткина»; А. Голубева — «Мальчик из Уржума»; В. Г. Короленко — «Слепой музыкант»; «Былины»; А. П. Чехов — «Юмористические рассказы»; А. Бялевіч — «Добрыя людзі»; А. Калинин — «Красное знамя»; В. Полторацкий — «В дороге и дома»; Л. Карелин — «Младший советник юстиции»; М. Залка — «Янош - солдат»; Н. Д. Телешов — «Повести и рассказы»; B. Nikitiuk — „Czerwona Hajnówka"; G. Adamow — „Wygnanie władcy" tom I i II; K. Paustowski — „Dni lata"; W. Tendriakow — „Słota"; M. Patkowski — „Dworzanin"; W. Ażajew — „Daleko od Moskwy"; B. Wolin — „Młodzieńcze lata Lenina"; A Kedrow — „Statek w mieście"; M. Tichonow — „Turkusowy pułkownik".

**У Злучаных Штатах Амерыкі да гэтага часу негры фактычна не маюць ніякіх правоў.**

**(з газет)**



**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-АМЕРЫКАНСКУ**

З сакавіка канчаецца кадэнцыя абласных, раённых, гарадскіх і пасялковых Саветаў дэпутатаў працоўных Беларускай ССР. У сувязі з тым Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР апублікаваў указ, які назначае выбары ў Саветы на нядзелю 14 сакавіка 1965 года. Пачалася агітацыйная акцыя сярод выбаршчыкаў. Карэспандэнт са Слоніма паведамляў па тэлефоне рэдакцыю «Советская Белоруссия»:... «Ва ўсіх населеных пунктах Дзярэўнаўскага сельсавета створана 12 агітацыйных пунктаў. Кіруюць імі настаўнікі і дасведчаныя агітатары. У вёсках Дзярэўна, Ашнарэвічы, Мілашэвічы кіраўнікамі агітацыйных пунктаў зацверджаны Л. Латуцік, А. Клімовіч і А. Пэнда. У агітацыйных пунктах хлебаробы могуць пазнаёміцца з Палажэннем аб выбарах, пачытаць свежыя газеты».

Вядомы беларускі пісьменнік, між іншым, аўтар папулярнай у нашых аматараў п'есы «Суседка», Алесь Пальчэўскі адзначае шасцідзесяцігоддзе... — «ён незаслужана пацярпеў ад культу асобы. Але чалавек цвёрдай веры, стойкі і непахісны, ён не паў духам у тыя цяжкія часы»... — піша «Чырвоная змена».

Выдавецтва «Беларусь» плануе выпусціць у гэтым годзе каля трыста новых кніжак. Выйдзе зборнік успамінаў беларускіх і польскіх партызанаў — «Дружба, змацаваная крывёю». Выдавецтва завяршыла выпуск 12-томнага збору твораў Якуба Коласа. Гэта найбольш поўнае выданне твораў народнага паэта. У бягучым годзе пачнецца выпуск чатырохтомнага збору твораў Пятруся Броўкі. Пачынаецца таксама выпуск пяцітомнага збору твораў папулярнага беларускага празаіка Івана Шамякіна. На просьбу чытачоў вырашана ўключыць у гэты збор знаны раман І. Шамякіна — «Сэрца на далоні». У першым квартале выйдзе двухтомнік выбраных твораў Уладзіміра Дубоўкі. Многае пабачыў і перажыў гэты выдатны паэт. Яго творчасць гэта па сутнасці адзін з мастацкіх летапісаў нашага часу. Перад кожным, хто знаёміцца з творамі Дубоўкі, раскрываецца шырокае кола тэм, мастацкаму асэнсаванню якіх паэт прысвяціў дзесяцігоддзі. У другім томе публікуюцца яго паэмы, балады і казкі.




Яшчэ некалькі слоў пра планы іншага беларускага выдавецтва — «Народная асвета». Будзе надрукаваны дапаможнік «Практычная стылістыка беларускай мовы», частка ІІ дае стылістычную характарыстыку некаторых граматычных сродкаў беларускай мовы, вызначае асаблівасці іх выкарыстання ў залежнасці ад зместу і жанру літаратурнага твора, разглядае пытанні стылістыкі важнейшых частак мовы і стылістычнае выкарыстанне сінтаксічных сродкаў яе.

Друкуецца таксама «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» і «Руска - беларускі слоўнік». Метадычныя парады і рэкамендацыі па вывучэнню праграмных твораў беларускай літаратуры, біялагічных звестак аб пісьменніках, пытанняў тэорыі літаратуры даюцца ў дапаможніку «Вывучэнне беларускай літаратуры ў VIII класе».

Выдавецтва «Народная асвета» толькі розных падручнікаў выпусціць 87 назваў.

(С.Я.)




ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 6 (367) 7 лютага 1965 года



Спаткаліся мы на снежнай горцы. Групка дзяцей з Навасёлак з вясёлым шумам з'язджала з горкі. Мяне зацікавілі санкі. Вялікія, драўляныя, самаробныя. Дзеці падцягвалі санкі на вяршыню гары і ўсёй кампаніяй са смехам навальваліся на іх па сем-восем чалавек. Піск, смех, вясёласць — выгодныя санкі.

Падыходжу з фотаапаратам. Дзеці смяюцца. «Мы маем лепшыя санкі, купныя, мы зараз збегаем па іх», — прапануюць дзеці. Я не згаджаюся. Купленых санак ёсць многа, а такія не заўсёды можна ўбачыць. Самаробныя, але выгодныя.

На здымку Галінка Кочук з Навасёлак.

Я. Чэрнякевіч

## РЭБУС



Прачытай, што тут напісана.

## Пані Арыфметыка

Пані Арыфметыка!
Падумайце хоць раз —
Ці пальцаў на руках стае,
Каб слёзы падлічыць мае?
І гэта ўсё пра вас!

## ЗАГАДКІ

У каюце малоткі
Лічаць мінуткі.

Вы, мусіць, самі бачылі
Далонь яго гарачую,
Дзе ён толькі правядзе —
Гладкі след за ёй ідзе.

Вялікае карыта
У зелені стаіць,
Вадою наліта,
На сонцы бліщчыць.

## Першыя лыжы

Шмат стагоддзяў назад паўночныя плямёны займаліся толькі паляваннем. Па глыбокім снезе цяжка было хадзіць і паляўнічыя дадумаліся прывязваць да ног дошчачкі. Людзі, якія хадзілі па гарах, рабілі кароткія і шырокія лыжы. Часам іх спадыспаду аббівалі калматаю скураю. На такіх лыжах было добра ўзыходзіць па крутых адхонах — поўсць не давала лыжам спаўзаць назад. Паляўнічыя, што жылі ў тундрах, рабілі коўзкія лыжы. Левая была доўгая, а правая — карацейшая, каб ёю было ямчэй папіхацца. Лыжы ўвесь час мяняліся і паляпшаліся, пакуль не сталі такімі, як цяпер.



## ЗАДАЧА

Разрэжце гэтую фігуру на чатыры роўныя часткі так, каб, склаўшы іх першы раз, атрымаць ромб, а склаўшы другі раз, атрымаць квадрат.



Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka"



# Хворы

Каля альтанкі, што стаіць пасярэдзіне двара, з самай раніцы сабралася некалькі хлопчыкаў і дзяўчынак. Важаком у іх чацвёртакласніца Каця, русавалосая дзяўчынка з сур'ёзным тварам. Дзеці збіраюцца гуляць у ката і мышку. Раптам да іх падбягае Жэня.

— А ў мяне ёсць трубка! — хваліцца яна.

— Дзе ты яе ўзяла? — пытае Каця.

— Мама дала. Яна купіла сабе новую, а гэтую аддала мне.

Мама Жэні працуе ўрачом, і трубка, што яна аддала дачцы, сапраўдная, доктарская.

Дзеці акружаюць Жэню і пачынаюць разглядаць жоўтую гумовую трубку.

— Давайце гуляць у бальніцу, — прапануе белагаловы Шура.

— Давайце! Давайце ў бальніцу! — падхопліваюць усе.

Дзеці выбіраюць Кацю доктарам. Натку — медсястрой. Ну, а хворымі будуць усе астатнія. Па чарзе, відома. Каця прынесла з дому тэрмометр. Натка нарабіла з цукру парашкоў, а з кавалачкаў яблык — таблетак. І гульня пачалася.

Першым у «бальніцу» прыйшоў тоўсценькі, чырванашчокі Ваня. «Доктар» спытала, што ў яго баліць.

— Дужа баліць у грудзях, — дрыготкім, як у старога дзеда, голасам адказаў Ваня. — І кашаль душыць, не дае спаць.

Каця змерала тэмпературу, прыставіла да грудзей Вані трубку, паслухала, паглядзела ў роце.

— Прастудзіўся крыху, дарагі, — сказала яна і дала Ваню «таблетак ад кашлю».

Пасля яго зайшла Светка, з палкай у руцэ. Яна вохкала, уздыхала і скардзілася, што ў яе «ныюць усе костачкі». «Доктар» доўга і ўважліва слухала «старую», а потым прыпісала ёй парашкі і мікстуру.

Нарэшце дайшла чарга да Шуры.

— А ты на што скардзішся? — спытала Каця.

— Горача мне, доктар. З учарашняга дня... І ў роце нібы высахла... — ціха адказаў «хворы».

— Сястра, змерайце яму тэмпературу, — загадала «доктар».

— Ляжце, калі ласка, вось на гэтую лаўку, — паказала «медсястра».

Шура лёг. Натка паставіла пад паху градуснік. Праз некалькі хвілін яна выняла градуснік і падала доктару. Каця паглядзела, і вочы яе шырока расшырыліся ад здзіўлення. Тэрмометр паказваў 37 з паловай градусаў.

— Ты хворы, — сур'ёзна сказала Каця.

— Ну, вядома, не здаровы, — згадзіўся Шура. — Мне горача...

— А ведаеш чаму? У цябе тэмпература. Самая сапраўдная тэмпература. І табе трэба ляжаць у пасцелі, а не гуляць на двары.

Шура недаверліва паглядзеў на Кацю. Потым ускапіўся з лаўкі і закрычаў:

— Няпраўда! Не можа быць!

— На, паглядзі сам.

Шура схапіў градуснік і ўпіўся ў яго вачыма. Што гэта? Бліскучы тонкі слупок унутры тэрмометра вышэй чырвонай лічбы. Значыць, у яго павышаная тэмпература. Але адкуль яна ўзялася? Ён жа адчувае сябе някепска.

— Можа твой градуснік няправільны? — пытае ён.

— Правільны. Мама заўсёды мерае ім тэмпературу, — упэўнена гаворыць Каця.

Шура хмурнее і апускае галаву.

— Што ж мне рабіць? — пытае ён праз хвіліну.

— Трэба ісці дамоў, — раіць Каця. Шура прыжмурвае вочы і доўга глядзіць на «доктара». Потым рашуча гаворыць:

— Я не пайду...

— Чаму?

— Я не хворы.

— Калі не хворы, маці зноў пусціць цябе на двор.

— Не пусціць, я ведаю. Ёй толькі скажы, што тэмпература, а адразу ў пасцель... — ледзь не плача Шура.

Усе змаўкаюць і спачувальна глядзяць на Шуру. Па тварах дзяцей відаць, што яны шкадуюць яго. Каця заклапочана трэ лоб, потым гаворыць:

— Але і заставацца на двары табе нельга. Можа быць яшчэ горш...

— У мяне ж нічога не баліць, — упарта паўтарае хлопчык.



Каця зноў пачынае ўгаворваць яго, але нічога не дапамагае. Нарэшце дзяўчынка строга пытае:

— Хворы павінен слухацца доктара ці не?

— Дык гэта ж гульня...

— Мала што гульня. Кажы: павінен ці не?

Шура хвіліну маўчыць. Потым ціха гаворыць:

— Па-ві-нен...

— Ну дык пойдзем да тваёй мамы. Яна будзе ў нас нібы за... прафесара... Як яна скажа, так і будзе.

І вось усе гуртам ідуць да Шуравай маці. Яна мерае сыну тэмпературу. Правільна — тэмпература павышаная.

— Дзякуй вам, дзеткі! — шчыра кажа маці і частуе ўсіх цукеркамі. — А ты, сынок, паляжыш крыху ў пасцелі, папраўішся і зноў будзеш гуляць з таварышамі.

— Хутчэй папраўляйся, Шура! — наперабой гавораць дзеці і выбягаюць на двор.

П. Рунец



# ЛЫЖНІКІ

Словы Э. Агняцвет



Ад узгорка да узгорка
Мы ляцім, ляцім, ляцім,
А за нашаю пяцёркай
Серабрысты ўецца дым.

Што нам гурба снегавая?
Мы даўно знаёмы з ёй.
Нам здалёк сасна ківае
Вечна новай галавой.

Мы імчымся ў свет шырокі —
Зноў прыгоркі, зноў лясы.
Хай мароз бярэ за шчокі,
Хай званчэюць галасы.

Не пашкодзяць і мяцелі, —
Стане спрытным кожны рух!
Хай жыве ў здаровым целе
Малады здаровы дух.



# Для самых маленькіх

## Праўду кажуць ле вочкі...

Вочкі,
Нівы вугалёчкі,
Броўкі,
Быццам бы падкоўкі,
Стужкі, стужкі,
Заплятушкі,
Чаравічкі —
Невялічкі.

Верка скача,
Верка плача
І смяецца на ўвесь рот.
Праўду кажуць ле вочкі,
А язык — наадварот.

Вы спытайце ў Веркі імя,
І адкажа Верка:
— Хіма.

Прыйдзе к бабцы — ды з парога:
— Не варылі мы нічога,
За сталом мы пасядзелі,
Нічагусенькі не елі.

— Распранайся, Верачка,
Вось твая талерачка.
Ці ж бабулька ведала,
Што ўжо Верка снедала?

— Хочаш, Верка, малака?
— Вельмі хачу, ага,
Мамка з поўненькім вядром
Ад Красулі ішла,
А Красуля — капытом,
Малако ўсё разліла.
Абурaецца бабуля:
— Ах, свавольніца Красуля. —
Бабка малако падносіць:
— Што яшчэ ў вас адбылося?
— Рэшата кот скінуў з лаўкі,
І пабіліся ўсе яйкі.
— Ты, дзіцятка, не гаруй,
Зараз лек адвару, —
Бабка ўнучку суцяшае
Ды кату ўсё пагражае:
— Зловім мы яго, зладзюгу,
Пакаштуе ён папругі.
Верка ўспомніла, вядома,
Што сказала несвядома,
Не было ніякай страты,
Кот ні ў чым не вінаваты.
Да бабулькі Верка з ласкай:
— Лепш даруем мы кату.
Адпачні ты, калі ласка,
А я хату падмяту.

А. Пысін



# НА ЁЛЦЫ



1965 года а гадзіне шаснаццатай.
Чакаем Цябе з нецярплівасцю.
Вучні пачатковай школы ў Зубаве».

З прыемнасцю я паехала на ёлку. І потым не шкадавала. Ёлка адбылася цудоўна. Ужо не гаворачы аб вельмі цікавай двухгадзіннай праграме, трэба адзначыць, што кожны вучань пабываў на сцэне, ды яшчэ і не адзін раз. Кожны хацеў выступіць. І кожны выступіў, ды і як удала.

Алe раскажу ўсё па парадку. Па-



15 студзеня ў рэдакцыю «Зоркі» прыйшло такое пісьмо: **«Дарагая «Зорка»! Пішуць да Цябе вучні пачатковай школы ў Зубаве. Мы вельмі хацелі б з Табой пазнаёміцца і таму вырашылі цябе запрасіць на нашу навагоднюю ёлку. Наша ёлка адбудзецца шаснаццатага студзеня**





сля кароткага выступлення кіраўніка школы, на сцэну ўзышоў хор. Прыгожа спяваюць дзяўчаткі і хлопцы, аж слухаць хацелася. Кожная песня чаргавалася з вершамі аб ёлцы і Варшаве. (Бо трэба зазначыць, што гэтая ўрачыстасць была адначасова прысвечана і 20-ай гадавіне вызвалення сталіцы і 700-й гадавіне яе заснавання).

Затым на сцэну выйшлі гарцэры. На наступным здымку вы бачыце гарцэрскага Герода са скіпетрам — знакам сваёй імперскай улады. Першакласнікі падрыхтоўвалі мантаж цікавых песень і вершыкаў і выступілі ў высокіх, каляровых, вельмі прыгожых шапках. Канцэрт усім вельмі спадабаўся. Асабліва цешыліся мамы, таты і бабулі, калі ўбачылі якія здольныя іх сыны і ўнукі.

Потым была супольная вячэра з



**чаем, булкамі з маслам і каўбасой і** вялікай колькасцю пячэння і цукеркаў. Але як усім смакавала за супольным сталом! Як ніколі! А гляньце, які цудоўны дзед Мароз. Ён усім прынёс падарункі.

Навагодняя ўрачыстасць закончылася весёлай забавай.



